Рэгіянальная газета. Rh.by
25 год мы з вамі!
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».
7 лютага 2020 года №6 (1293)
18+






Міністры замежных спраў Літвы і Беларусі Лінус Лінкявічус (справа) і Уладзімір Макей сустрэліся ў Рымдзюнах, дзе месціцца адзіная ў Беларусі школа з літоўскай мовай навучання.

# Міністр замежных спраў Літвы наведаў 96-гадовую Марыю Мажэйкене з Астравеччыны

старонка 21

Фота mfa.lt і Ігара ПАЛЫНСКАГА.

## «Знайшоў працяг прызвання ў сваіх выхаванках». Макоўскі распавядае, чаму ён можа працаваць трэнерам

старонка 22

## У Вілейскім раёне часцей звальняюць, чым наймаюць

старонка 3

## Пра 10 любімых твораў распавядае маладзечанка Ганна Кішкурна

старонка 19

ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Адкрылі першыя карпусы новай бальніцы

АСТРАВЕЦ

Раённая клінічная бальніца ў Астраўцы ад лютага прымае пацыентаў у новым будынку. Клініка стала самай тэхналагічнай з раённых бальніц вобласці, паведаміў журналістам намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама **Віктар Пранюк**.

Аб'ект уводзяць паэтапна. Першая чарга – у лютым: адкрытыя тры карпусы. Пачалі працаваць 13 аддзяленняў, пяць з якіх міжраённыя, на 232 ложкі. Яшчэ два карпусы здадуць у чэрвені. Усяго ў складзе бальніцы будзе 16 аддзяленняў, у тым ліку міжраённыя і нават міжабласныя, на 382 ложкі.

Віктар Пранюк падкрэсліў, што ў бальніцы ў Астраўцы – высокатэхналагічнае абсталяванне, працуюць высакакласныя спецыялісты, ствараюцца міжраённыя аддзяленні па аказанні той ці іншай дапамогі на вышэйшым узроўні.

Астравецкая бальніца, у прыватнасці, стала рэсурсным цэнтрам для пацыентаў з бліжэйшых раёнаў Гродзенскай, Мінскай і Віцебскай абласцей. Значным яе будаўніцтва было і з пункту гледжання павелічэння колькасці жыхароў Астраўца і раёна, звязанага з уводам у эксплуатацыю БелАЭС.

Клініка сёння – гэта рэсурсны міжраённы цэнтр па аказанні меддапамогі пацыентам з вострым парушэннем мазгавога кровазвароту, а таксама пры вострым каранарным сіндроме, які часта папярэднічае інфаркту міякарда. Пры запуску другой чаргі прадугледжваецца адкрыццё міжраённага траўматалагічнага цэнтра, перынатальнага цэнтра другога ўзроўню, а таксама міжраённага інфекцыйнага аддзялення.

Па тэхнічным абсталяванні Астравецкая бальніца – самая ўкамплектаваная раённая бальніца Гродзенскай вобласці.

**Паводле БелТА.**

## У Астраўцы 6 лютага адкрылі новы спартыўны комплекс

Будаўніцтва пачалося ў маі 2018 года. Шматфункцыянальны комплекс зрабілі двухпавярховым. На першым паверсе будзе працаваць спартыўная зала з трыбунай на 750 месцаў, басейн, саўна і кафэ. На другім – зала барацьбы і аэробікі, трэнажорная зала, кабінкі для каментатараў, адміністрацыйныя памяшканні.

Нагадаем, што спарткомплекс планавалі здаць яшчэ ў снежні.

**Аддзел інфармацыі.**

## Шэнгенскія візы каштуюць 80 еўра

2 лютага ўступіў у сілу новы Візавы кодэкс ЕС, шэнгенскія візы падаражэлі ад 60 да 80 еўра.

8 студзеня ў Брусэлі падпісалі пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС. Згодна з ім, шэнгенскія візы патаннеюць да 35 еўра. Але гэта адбудзецца толькі пасля ратыфікацыі дакументаў. Не раней за 1 чэрвеня.

Дакумент павінна ўхваліць Палата прадстаўнікоў, якая збярэцца на вясеннюю сесію не раней за пачатак красавіка. Вось з моманту ратыфікацыі і павінна прайсці два месяцы, каб візы патаннелі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Памёр галоўны рэжысёр Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка»

МАЛАДЗЕЧНА


Фота СТБ.

31 студзеня памёр галоўны рэжысёр Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» **Мікалай Андрэеў**. 29 снежня ён адзначыў 63-годдзе.

Мікалай Андрэеў скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут і Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі. Быў артыстам дзяржаўнага лялечнага тэатра, галоўным рэжысёрам Гродзенскага абласнога тэатра лялек, кіраўніком курса акцёраў тэатра лялек у Гродзенскім вучылішчы мастацтваў.

Ад красавіка 2004 года ўзначальваў мінскі абласны тэатр лялек «Батлейка» ў Маладзечне. Сярод пастановак – «Чароўная дуда» Вольскага, «Чортаў скарб» Караткевіча, «Тысяча і адна ноч», «Самазабойца» Эрдмана, «Тутэйшыя» Купалы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Прадпрыемствы паўдзельнічаюць у электронным кірмашы вакансій



Цяпер, каб даведацца аб вакансіях і пагутарыць з працадаўцамі, не трэба будзе збірацца ў зале райвыканкама, як гэта было некалькі год таму. На фота – адзін з кірмашоў вакансій у Вілейцы.

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта карэспандэнту расказала начальнік аддзела занятасці Вілейскага райвыканкама Тацццяна Цітуленка.**

– Гэту практыку праводзяць на ўзроўні Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.

> **Электронныя кірмашы вакансій ладзяць у межах сумеснага беларуска-шведскага праекта.**

Для правядзення кірмашоў зрабілі спецыяльную пляцоўку e-vacancy.by. На ёй можна паглядзець, якія прадпрыемствы і калі будуць прапаноўваць вакансіі ў электронным рэжыме, – расказала Тацццяна Цітуленка.

Па словах Тацццяны Цітуленкі, сістэма працуе так. На сайце Дзяржаўнай службы занятасці працадаўцы рэгіструюцца і размяшчаюць вакансіі. Шукальнікі працы абіраюць вакансію, якая іх зацікавіла. Пасля на пляцоўцы **e-vacancy.by** шукальнікі адразу ж могуць кантактаваць з працадаўцамі.

> **У чаце жыхарам любога пункту свету ў рэжыме рэальнага часу можна распытаць пра ўмовы працаўладкавання, заробак.**

І вам павінны тут жа адказаць, бо на сайце будуць дзяжурыць спецыялісты прадпрыемстваў.

Вілейшчына паўдзельнічае ў электронным кірмашы 12 лютага ад 10:00 да 12:00.

Дакладна вядома, што свае вакансіі прадставяць Вілейскі доследны лясгас, райспажыўтаварыства і Вілейская ЦРБ. Магчыма, далучацца яшчэ нейкія прадпрыемствы.

> **– Сталіца даўно ўдзельнічае ў такіх кірмашах. Мы ж упершыню, у тэставым рэжыме, – кажа Тацццяна Цітуленка. – Спецыялісты ездзілі на вучобу, каб даведацца, як працуе гэта сістэма.**

Пакуль пра новую форму працы з вакансіямі адаслалі лісты на прадпрыемствы Вілейшчыны, каб працадаўцы пазнаёміліся з такой формай.

– Я лічу, што гэта вельмі добрая ініцыятыва і ў нас усё атрымаецца. Цяпер наша задача – найбольш праінфармаваць людзей пра электронны кірмаш. Бо, з аднаго боку, працадаўцу цяжка знайсці добрага кваліфікаванага работніка, а з іншага, людзі не могуць знайсці працу. Спадзяёмся, што электронны кірмаш злучыць гэтыя дзве катэгорыі, – падсумавала Тацццяна Часлаўна.

На сайце таксама паведамляюць, што ў гэты ж час, 12 лютага ад 10:00 да 12:00, у электронным кірмашы паўдзельнічаюць прадпрыемствы Мядзельшчыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## У Літве заснавалі «Рух супраць Астравецкай АЭС»

АСТРАВЕЦ

**Грамадскі рух супрацьдзеяння БелАЭС стварылі ў Літве. Рашэнне аб гэтым зацвердзілі 1 лютага на ўстаноўчым пасяджэнні ініцыятыўнай групы.**

– У задачы нашага руху ўваходзіць дамагацца таго, каб Еўрасаюз пачуў пазіцыю Літвы наконт БелАЭС і падтрымаў я, каб ядзерны праект Беларусі, калі яго немагчыма спыніць, не атрымаў далейшага развіцця, – адзначыў адзін з ініцыятараў дэпутат Сойму **Жыгімантас Павілёніс**.

Рух гатовы падтрымліваць намаганні прэзідэнта Літвы **Гітанаса Наўседы**, накіраваныя на салідарнае рашэнне еўрапейскіх партнёраў Літвы не закупляць электраэнергію БелАЭС, якую Вільня лічыць небяспечнай.

Ініцыятыўную групу склалі некалькі дзясяткаў чалавек, у тым ліку дэпутаты парламента і Еўрапарламента, эксміністр замежных спраў, экс-кіраўнік дэпартамента дзяржаўнай бяспекі. Рух адкрыты для ўсіх, хто падзяляе яго пазіцыю. 15 лютага плануюць правесці з'езд.

Прафесар **Вітаўтас Ландсбергіс** у сваім выступленні сказаў, што ніколі не позна сказаць небяспецы і несправядлівасці «не».

Адзін з заснавальнікаў дэпутат Еўрапарламента **Пятрас Аўштравічус** звярнуў увагу, што ў Літве пануе ўяўленне, што Астравецкая АЭС ужо пабудаваная і што грамадства нічога не можа зрабіць. Аднак гэта недакладна – беларускія ўлады плануюць далей развіваць праект небяспечнай электрастанцыі, таму, безумоўна, яшчэ не позна актыўна выступаць супраць гэтых планаў.

**Паводле «Радыё Свабода».**


Фота з архіва «РГ».

Падчас кірмашу вакансій у Вілейцы.

# У Вілейскім раёне часцей звальняюць, чым наймаюць

**Раён стаў лідарам па гэтым разрыве ў Беларусі. Агулам па краіне вызначылі 28 раёнаў і адзін горад з напружаным становішчам на рынку працы.**

Гэта амаль удвая менш, чым летась, калі такіх раёнаў было 53. 19 тэрыторый трапілі ў спіс другі раз.

### Як вызначаюць праблемныя па занятасці раёны і гарады

Спіс праблемных тэрыторый складаюць штогод. Некаторыя раёны і гарады туды трапляюць паўторна. Да прыкладу, у спісе на 2020 год такіх тэрыторый 19. У Брэсцкай вобласці – 2, у Віцебскай – 8. У Гомельскай і Гродзенскай – па адной. У Мінскай – 6. А ў Магілёўскай паўторна ў спіс патрапіў Бабруйск – адзіны горад, які ўключылі ў пералік у 2019-м і гэтым годзе.

Праблемныя раёны вызначаюць не па адным крытэрыі, а па сукупнасці на падставе адміністрацыйных дадзеных, ведамаснай справаздачнасці і афіцыйнай статыстычнай інфармацыі.

Пры складанні пераліку тэрыторый з напружанай сітуацыяй на рынку працы ўлічваецца і ўзровень зарэгістраванага беспрацоўя, і колькасць беспрацоўных, якія шукаюць працу больш за 12 месяцаў, і доля работнікаў, якія працавалі ў рэжыме вымушанай няпоўнай занятасці.

Сярод іншых крытэрыяў – доля работнікаў арганізацый, якія былі ў прастоі цэлы дзень, суадносіны колькасці беспрацоўных да колькасці вакансій і колькасці прынятых работнікаў да ліку звольненых. Усе адзнакі, выстаўленыя па гэтых пунктах, складаюць і дзеляць на іх колькасць. Раёны і гарады з самымі высокімі паказчыкамі і трапляюць у выніковы спіс тэрыторый з напружанай сітуацыяй на рынку працы.

### Дзе больш звальняюць, чым наймаюць

Крытэрый, які паўплываў на ўключэнне ў спіс практычна ўсіх тэрыторый, – суадносіны прынятых і звольненых работнікаў. Прычым у раёнах, якія апынуліся ў ім паўторна, гэты пункт стаў вырашальным у 16 выпадках з 18. У лідарах па разрыву паміж колькасцю звольненых і прынятых на працу – **Вілейскі** раён. Там нанятых менш на 25,1%, чым тых, каму вярнулі працоўную кніжку. На другім месцы – Свіслацкі раён з розніцай паміж звольненымі і прынятымі 25%. На трэцім – Крупскі раён, дзе разрыў 23,9%.

**На рэйтынг паўплываў і тэмп росту колькасці занятых у рэгіёне – гэта суадносіны колькасці занятых у эканоміцы да колькасці занятых у аналагічным перыядзе мінулага года.**

Звычайна гэты паказчык у вялікай ступені ўплывае на ўзровень напружанасці на рынку працы. Па рэспубліцы ён на ўзроўні 1. На тэрыторыях, якія трапілі ў спіс, ён пераваліў за адзінку. Аднак у некаторых раёнах нават пры ўзроўні напружанасці на рынку працы ніжэй за адзінку тэмп росту колькасці занятых апынуўся мінімальным у вобласці. У Брэсцкай – гэта Іванаўскі раён (знізіўся на 2%), у Віцебскай – Гарадоцкі (-2,6%), у Гомельскай – Добрушскі (-4,7%), у Гродзенскай – Зэльвенскі (-3,5%), у Мінскай – Капыльскі і **Мядзельскі** (-2,5%), у Магілёўскай – Дрыбінскі (-3,6%).

### Дзе больш за ўсё работнікаў, якіх адпраўлялі на няпоўны дзень

У многіх раёнах, якія трапілі ў спіс, заўважная колькасць работнікаў сутыкнулася з няпоўнай занятасцю. Больш за ўсё такіх у Глыбоцкім (6,5% ад спісачнай колькасці работнікаў). Крыху ніжэй гэты паказчык у Шаркаўшчынскім раёне – 6,2%.

**Ёсць тэрыторыі з прадпрыемствамі, дзе абвясцілі прастой на цэлы дзень. У Талачынскім раёне такіх 2,1% ад іх спісачнай колькасці, у Маладзечанскім – 2,9%, у Пухавіцкім і Рагачоўскім – 3,3%, у Бярозаўскім і Лагойскім – 2,4%.**

У спіс трапілі таксама раёны, дзе цяжэй за ўсё ўладкавацца на працу. Да прыкладу, у Мёрскім 11,1% афіцыйных беспрацоўных стаіць на ўліку больш за год. У Пастаўскім раёне – 2,8%, а ў Лагойскім – 1,6% такіх.

**Паводле FINANCE.TUT.BY.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.01 | 6.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.1283 | **2.1540** |
| **Еўра** | 2.3421 | **2.3769** |
| **Злоты, 10** | 5.4754 | **5.5732** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.4091 | **3.4173** |
| **Грыўня, 100** | 8.5629 | **8.6969** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **29.01** | **5.02** |
| **Еўра** | 2.2900/2.3700 | **2.3200/2.4000** |
| **Долар ЗША** | 2.0900/2.1500 | **2.1200/2.1800** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 29.01 | 5.02 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 19,87 | **19,87** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 3,25 | **3,25** |
| **Сасіскі «Малочныя», 1 кг** | 7,44 | **7,18** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 9,50 | **9,50** |
| **Карп жывы, 1 кг** | 5,20 | **5,10** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 6,15 | **5,80** |
| **Скумбрыя с/с, 1 кг** | 9,80 | **5,90** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 15,60 | **15,80** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 1,40 | **1,40** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 1,85 | **1,90** |
| **Алей, 1 л** | 3,00 | **3,00** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,30 | **2,30** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,60 | **1,60** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 1,75 | **1,75** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 2,10 | **2,20** |
| **Агуркі, 1 кг** | 5,90 | **6,30** |
| **Баклажаны, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Бульба, 1 кг** | 0,60 | **0,60** |
| **Буракі, 1 кг** | 0,40 | **0,40** |
| **Капуста, 1 кг** | 0,60 | **0,60** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 2,50 | **2,50** |
| **Морква, 1 кг** | 0,70 | **0,70** |
| **Памідоры, 1 кг** | 4,20 | **4,50** |
| **Перац, 1 кг** | 6,50 | **6,50** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 0,90 | **0,90** |
| **Часнок, 1 кг** | 6,50 | **6,50** |
| **Шампіньёны, 1 кг** | 5,90 | **5,50** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 3,50 | **3,50** |
| **Бананы, 1 кг** | 2,50 | **2,50** |
| **Вінаград, 1 кг** | 4,90 | **4,50** |
| **Гранат, 1 кг** | 4,50 | **4,50** |
| **Грэцкі арэх цэлы, 1 кг** | 6,90 | **10,00** |
| **Грушы, 1 кг** | 3,50 | **3,50** |
| **Ківі, 1 кг** | 4,30 | **4,50** |
| **Лімон, 1 кг** | 3,90 | **3,90** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 3,90 | **3,30** |
| **Хурма, 1 кг** | 3,90 | **3,00** |
| **Чарнасліў б/к, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 1,99 | **1,90** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,50 | **1,50** |
| **Масла, 1 кг** | 15,00 | **15,00** |
| **Сала, 1 кг** | 12,50 | **12,50** |
| **Сыр, 1 кг** | 13,00 | **13,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 7,50 | **7,50** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 3,00 | **3,00** |

## На Вілейскім вадасховішчы браканьеры злавілі 176 кілаграмаў рыбы

ВІЛЕЙКА

2 кастрычніка іх затрымалі супрацоўнікі Мядзельскай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету. У момант затрымання двое «здабытчыкаў» знаходзіліся з лодкай на беразе. Улоў паспелі загрузіць у машыну свайго таварыша, які павінны быў даставіць рыбу ў Вілейку, аднак і яго спынілі ў дарозе.

Кіроўца, у багажніку ў якога інспектары выявілі дзевяць мяхоў з сеткамі і рыбай, распавёў, хто перадаў яму незаконны набытак. Усіх трох узялі пад варту, а аўто арыштавалі. Узбуджаная крымінальная справа.

Ва ўлове сецявікоў аказаліся дзясяткі асобін адборнага судака (64 штукі) і ляшча (61 штука), а таксама 12 асобін больш дробнай рыбы.

Прычыненую прыродзе шкоду ацанілі амаль у 15 тысяч рублёў, гэту суму затрыманыя абяцалі аплаціць у бліжэйшыя дні.

**Паводле Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## Маладзечанца затрымалі за збыт какаіну

МАЛАДЗЕЧНА

28 студзеня міліцыя затрымала трох мужчын, якія напярэдадні ў Мінскім раёне прадалі за тры тысячы долараў каля 20 грамаў какаіну жыхару Капыльскага раёна. Сярод падазраваных – 43-гадовы ўраджэнец Беларусі, які жыве ў нямецкім Гамбургу, яго 38-гадовы брат з Маладзечна і 30-гадовы грамадзянін Германіі.

Першапачаткова беларусы планавалі выкрасці ў сябе на радзіме аўтамабіль замежніка. Для гэтага яны арганізавалі замежную турыстычную паездку на яго BMW.

Разам з немцам з Гамбурга выехаў старэйшы з братоў, які ўзяў з сабой пробную партыю наркотыку і паспяхова перасек з ёй мяжу.

Па прыбыцці на месца беларусы арганізавалі забаўляльную праграму, падчас якой планавалася вырабіць дублікат ключоў ад аўто немца. Каб было алібі перад госцем, у будучыні меркавалася яго самастойная паездка ў Беларусь, падчас якой і выкралі б іншамарку. Падазраваных затрымалі ў пасёлку Хацежына Мінскага раёна.

Цяпер беларусы ў ізалятары часовага ўтрымання, а немец абавязаны яўкай. Следчыя распачалі крымінальную справу за збыт какаіну. Працягваюць праверку па фактах незаконнага перамяшчэння наркотыку праз дзяржмяжу і падрыхтоўкі да крадзяжу ў асабліва буйным памеры.

Паводле інфармацыі МУС, старэйшы з беларусаў займаўся ў Германіі крымінальным аўтабізнесам і распаўсюджваў наркотыкі. Раней у Беларусі яго прыцягвалі да крымінальнай адказнасці за буйныя крадзяжы і ўцёкі з месцаў пазбаўлення волі.

Яго брата таксама судзілі: за разбой, забойства, крадзяжы і рабаванні. А ў снежні мінулага года мужчына вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі, дзе адбываў пакаранне за бандытызм.

Грамадзянін Германіі да крымінальнай адказнасці не прыцягваўся.

**Паводле прэс-службы МУС.**



Так цяпер выглядае вітрына ў краме цацак.

Фота Настассі УГІНАЙ.

# Ноччу хлопец пабіў вітрыну ў краме цацак

## Фігуранта шукае міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА

**Міліцыя Маладзечна шукае маладога чалавека, які беспадстаўна, з хуліганскіх намераў, пашкодзіў шкло вітрыны цацачнай крамы ў гандлёвым цэнтры «Тройка».**

Інцыдэнт адбыўся ў ноч з 2 на 3 лютага. На лінію «102» звярнуўся ахоўнік гандлёвага цэнтра, які паведаміў аб супрацьпраўных дзеяннях невядомага, расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік РАУС Маладзечна **Юлія Крук**.

На месца здарэння выбылі міліцыянеры. У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, а таксама вывучыўшы запісы з камер відэаназірання, устанавілі абставіны. Нецвярозы хлопец спускаўся па лесвіцы з бара, размешчанага ў «Тройцы».

На другім паверсе ён стукнуў нагой у дзверы, а на першым – ударам кулака разбіў вітрыннае шкло ў цацачнай краме. Пасля з'ехаў на таксі.

Маладзечанскі РАУС перакanaўча просіць грамадзян, калі вам вядомы малады чалавек на фота, паведаміць па гэтых тэлефонах: **8(029) 769-43-68, 8(033) 334-10-64**, у аператыўна-дзяжурную службу РАУС: **8(0176) 77-16-56, 102.** Ананімнасць і канфідэнцыяльнасць гарантуюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечана Юліяй КРУК.

Хлопец, якога шукаюць.

## 16-гадовы хлопец знік без вестак

АШМЯНЫ

**Ашмянскі РАУС шукае без вестак зніклага 16-гадовага Андрэя Жамойця.**



Юнак жыве з бацькамі. 2 лютага каля 11 гадзін раніцы ён выйшаў з дому да сябра, і да гэтага часу яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** на выгляд 16 гадоў, рост 175 см, хударлявага целаскладу, вочы блакітныя, валасы цёмна-русыя, кароткія. Ёсць шнар на левым брыве.

**Быў апрануты:** шапка цёмнага колеру, куртка з капюшонам карычневага колеру, штаны светлага колеру і чорныя красоўкі. Пры сабе можа мець заплечнік чорнага колеру.

Раней падлетак ужо сыходзіў з дому.

Калі вам што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне непаўналетняга, паведаміце па тэлефонах: 8 (029) 78 44 147, 8 (01593) 4 45 42, 102.

**Прэс-служба МУС.**

## 33-гадоваму рабочаму станком адрэзала пальцы

МАЛАДЗЕЧНА

29 студзеня ў Маладзечанскім раёне 33-гадоваму работніку станком адрэзала пальцы, расказала карэспандэнту афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Тацццяна Беланог**.

Па папярэдніх дадзеных, работнік наладжваў дрэваапрацоўчы станок, не выключыўшы яго. У выніку адбылася трагедыя – мужчыну адрэзала сярэднія фалангі пальцаў рукі. Яго шпіталізавалі.

Следчыя агледзелі месца здарэння, апыталі работнікаў. Прызначылі экспертызы. Таксама следчым трэба высветліць, ці былі парушэнні правілаў аховы працы службовымі асобамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У агні загінуў гаспадар дома

АШМЯНЫ

Пажар здарыўся ў вёсцы Петрулі Жупранскага сельсавета, што на Ашмяншчыне. Выратавальнікам пра яго паведамілі каля дзевяці вечара.

Каля 21:40 пад рэшткамі абгарэлых будаўнічых канструкцый знайшлі труп мужчыны. Гэта быў гаспадар дома.

Агонь знішчыў дах, перакрыцці, пашкодзіў сцены, маёмасць у доме. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## Вілейчука будуць судзіць за наркотыкі

ВІЛЕЙКА

27 студзеня пракуратура накіравала ў суд матэрыялы па абвінавачванні жыхара Вілейкі ў набыцці і захоўванні наркотыкаў.

Намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі** расказаў карэспандэнту, што фігуранта затрымалі летась у кастрычніку за тое, што ён быў нецвярозы ў грамадскім месцы.

Калі ў міліцыі яму сказалі дастаць усё з кішэняў, мужчына дастаў карабок ад запалак, высыпаў з яго ў рот парашок і з'еў.

Спецыялісты правялі экспертызу парашку, рассыпанага на падлогу, і тага, што застаўся ў карабку. Аказалася, што гэта марыхуана.

У 2016 годзе мужчыну асудзілі за наркотыкі па частцы 1 артыкула 328 Крымінальнага кодэкса. У верасні 2019 года выйшаў з турмы па амністыі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Згодна з інфармацыяй райвыканкама, рэальны заробак вілейчукоў павысіўся больш чым на шэсць працэнтаў.

# У 2019 Вілейшчына экспартавала прадукцыю ў 59 краін

## І яшчэ некалькі лічбаў – пра сацыяльна-эканамічны стан раёна ў 2019 годзе

ВІЛЕЙКА

**На сайце Вілейскага райвыканкама з'явілася інфармацыя пра сацыяльна-эканамічнае развіццё раёна ў 2019 годзе. Мы выбралі некаторыя лічбы.**

**525** – столькі юрыдычных асоб дзейнічалі ў раёне на 1 студзеня 2020 года.

**997 – столькі было на Вілейшчыне індывідуальных прадпрымальнікаў.**

**17,3 тысячы** чалавек былі занятыя ў эканоміцы.

**806,3 рубля** склала намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў (без мікраарганізацый і малых арганізацый без ведамаснай падпарадкаванасці). У тым ліку ў снежні 2019 года – 880,5 рубля. Тут гаворка ідзе менавіта пра налічаны заробак, без выліку падаткаў. Рэальны ж заробак павысіўся на 6,5%, у снежні 2019 года ў параўнанні са снежнем 2018 года – на 10,4 %. Аднак канкрэтную лічбу не ўказваюць.

**51,7 тысячы тон** у сельгасарганізацыях раёна склаў валавы збор збожжавых і зернебабовых культур у вазе пасля дапрацоўкі пры сярэдняй ураджайнасці 19,4 цэнтнера з аднаго гектара ўбранай плошчы.

**Адну тысячу тон бульбы пры ўраджайнасці 184 цэнтнеры з аднаго гектара ўбранай плошчы накапалі летась.**

**6,4 тысячы тон** жывёлы і птушкі выгадавалі сельгаспрадпрыемствы раёна, прадалі 5,6 тысячы тон.

**51,7 тысячы тон** малака атрымалі. А прадалі 45,8 тысячы.

**92,8 мільёна рублёў** – на столькі выраблі прамысловай прадукцыі арганізацыі раёна.

**71,4 мільёна рублёў** інвестыцый асвоілі ў раёне.

**27 мільёнаў рублёў** – столькі ўклалі ў жыллёвае будаўніцтва.

**21 044** квадратныя метры агульнай плошчы жылля ўвялі ў эксплуатацыю.

**16,4 мільёна долараў – на столькі экспартавалі тавараў прадпрыемствы Вілейшчыны.**

**5 мільёнаў долараў** – на столькі імпартавалі.

### З якімі краінамі супрацоўнічалі

Прадпрыемствы Вілейшчыны пастаўлялі прадукцыю на рынкі 59 дзяржаў, імпартавалі – з 31 краіны.

**Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі былі Расія, Латвія, Сірыя, Сербія, Літва, Казахстан, Італія, Кітай, Францыя, Украіна, Польшча.**

### Што экспартавалі

- сталярныя і цяслярныя вырабы;
- прыборы і апаратуру для вымярэння цiску ці іншых характарыстык, вадкасцяў і газаў;
- вымяральныя або кантрольныя прыборы;
- **прылады на вадкіх крышталях;**
- лазеры;
- піламатэрыялы;
- венікі і шчоткі, уключаючы шчоткі, якія з'яўляюцца часткамі механізмаў;
- будаўнічыя зборныя канструкцыі;
- металаканструкцыі з чорных металаў;
- распілаваныя лесаматэрыялы.

**Паводле сайта Вілейскага райвыканкама.**



Фота з асабістага архіва Наталлі ЖУК.

Выпускнікі-1995 з першай настаўніцай Галінай Давыдаўнай Шацкай.

## Пра магічнае ўздзеянне папяровай газеты ў 21 стагоддзі

МАЛАДЗЕЧНА

У пятніцу, 31 студзеня, у папяровай версіі «Рэгіянальнай газеты» з'явіўся матэрыял маладзечанкі **Наталлі Жук** пра вечар сустрэчы з выпускнікамі. У суботу мы размясцілі яго на сайце.

Зваротная рэакцыя натхніла **Наталлю** на водгук, які яна даслала карэспандэнту:

«Якое ўсё ж такі магічнае ўздзеянне мае друкаванае выданне ў 21 стагоддзі на людзей! Людзі адчулі сябе зоркамі, ім тэлефанавалі з работы, сваякі.

Ім паведамлялі: Вы ў газеце!

Пыталіся: «А што, у вас там блат? Чаму вы ў газеце?» Спынялі на вуліцы выпускнікі мінулых гадоў, перажывалі, што іх паралель не сустракаецца. Дасылалі спасылкі. Гэта таксама асобная тэма для артыкула.

Сёлета мы не толькі абмежаваліся сустрэчай, але і па магчымасці адшукалі, наведалі настаўнікаў.

Атрымалася свята душы, а выхад артыкула проста зрабіў шматлікім людзям жыццё ярчэйшым! Яшчэ раз дзякуй Вам!»

**Аддзел інфармацыі.**

## Смаргонка прайшла абласны кастынг на конкурс прыгажосці

СМАРГОНЬ

Смаргоншчыну ў гэтым годзе прадстаўлялі тры ўдзельніцы, адна з якіх, **Яна Багдановіч**, прайшла ўсе тры этапы выпрабаванняў. Аб гэтым паведамляюць у Смаргонскім раённым цэнтры культуры.

1 лютага ў Гродзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў прыйшлі звыш сотні ўдзельніц. Кастынг праходзіў у тры этапы – сумоўе, дэфіле ў купальніках і фатаграфаванне. У журы – прафесіяналы ў сферы прыгажосці і папулярныя тэлевядучыя.

Нагадаем, што Нацыянальны конкурс прыгажосці «Міс Беларусь» праводзіцца адзін раз у два гады і прадстаўніцы прыгожай паловы Гродзеншчыны перамагалі ў ім часцей, чым прэтэндэнткі на ганаровы тытул з іншых рэгіёнаў краіны.

**Аддзел інфармацыі.**

## Што прасілі маладзечанцы ў памочніка Лукашэнкі

МАЛАДЗЕЧНА

4 лютага ў Маладзечне правёў асабісты прыём грамадзян памочнік Аляксандра Лукашэнкі – інспектар па Мінскай вобласці **Ігар Яўсееў**, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

Маладзечанцы і жыхары раёна пыталіся ў яго пра сацыяльнае жыллё, якасць пітной вады, зямельныя ўчасткі пад фермерскую гаспадарку.

Большасць зваротаў тычыліся паляпшэння жыллёвых умоў. Так пенсіянерка з Маладзечна папрасіла перавесці яе арэндную кватэру ў сацыяльнае жыллё або паменшыць ёй кватплату. Новая кватэра абыходзіцца дорага: пенсія складае 345 рублёў, за кватэру трэба аддаваць 180. Ігар Яўсееў параіў разгледзець пакой у інтэрнаце або падумаць над варыянтамі падпрацоўкі, бо ніякіх ільгот жанчына не мае.

Таксама маладзечанцы скардзіліся на тое, што шмат каштуе правядзенне каналізацыі ў прыватных дамах. Некалькі месяцаў трэба плаціць па трыста-чатырыста рублёў. Такая ў многіх пенсія. Дырэктар Маладзечанскага водаканала **Аляксандр Конаў** сказаў, што ў бліжэйшы час тэту каналізацыю ўзводзіць не плануюць, таму адзіны выхад для жыхароў – зрабіць яе самастойна.

Жыхары Краснага казалі пра дрэнную якасць вады ў калодзежах. Па іх словах, узровень жалеза складае 1,4 мг. Ігар Яўсееў даручыў зрабіць замеры вады.

Пасля прыёму Ігар Яўсееў падкрэсліў: Маладзечна ўваходзіць у лік 11 гарадоў Беларусі, якія кіраўнік дзяржавы вызначыў як паказальныя, таму тут трэба забяспечваць усе ўмовы для пражывання людзей, ствараць новыя працоўныя месцы.

**Паводле БелТА.**

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ФВ-Пола, 2011 г.в., рухавік 1,4. Т. (8-044) 4720414.*

• Фіят-Уліс, 1995 г.в., газ-бензін, в рабочым стане. Т. (8-029) 6080111.*

• УАЗ-452 бартавы, можна на запчасткі, з дакументамі. Т. (8-033) 6317326.*

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., сталяі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, заднія ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Рухавік ВАЗ, 1600 куб. см., капрамонт. Т. (8-044) 4703638.

• Рухавік Фіят,1,6 мона, 1993 г.в. Т. (8-044) 4703638.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Старыя савецкія матацыклы і запчасткі. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы (2 паверх), вул. Кастрычніцкая, 40, часткова з мэбляй, 62 000 рублёў, магчымы торг. Т. (8-029) 8737092.

• 2-пакаёвая кватэра ў п. Чысць Маладзечанскага раёна па вул. Цэнтральнай, 2 з гаражом, хлеўчыкам і агародам, 1 паверх 2-павярховага цаглянага дома 1991 года, 52/29/7,6, санвузел раздзельны, шклопакеты, металічныя дзверы, зашклёная лоджыя, тэлефон. Пад вокнамі абгароджаны сеткай агарод (вішні, слівы, яблыні, парэчкі, маліна). Побач з домам — газасілікатны гараж 5х6, 2 цагляныя хлеўчыкі. Цана 57000 рублёў Т. (8-029) 6690450.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Незалежнасці. Мэбля. Гараж. Т. (8-029) 585482.*

• Участак 12 сотак у Вілейцы, вул. Стаўкі, 9. Т. (8-044) 7133606, (8-029) 1825368.*

• Дом 45 кв. м у Вілейцы. Пячное ацяпленне, калодзеж, 13 сотак. Т. (8-033) 6671169.

• Дом у в. Карвелі, 2 км ад Вілейкі, нядорага. Т. (8-029) 5027565.

• Дом у Маладзечне па вул. Велікасельскай. Т. (8-033) 6393440.*

• Кватэра 1,5, 41 кв. м агульнай плошчы ў пас. Сасновы Бор Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 1501884.*

• Участак. Вілейка, вул. Стаўкі, 9. Т. (8-029) 1825368, (8-044) 7133606.*

### МЯНЯЮ

• 1-пакаёвую кватэру ў к.п. Нарач на Маладзечна. Т.(8-044) 4901101.*

### ЗДАМ

• Кватэру на суткі. Т. (8-029) 6216628.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 7737451, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. Пенсіянерам скідкі. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393 Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЗВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Іншае**

• Дровы калодкамі, колатыя. Сасна сухая, магчыма, асіна, бяроза, вольха. Т. (8-029) 8740790, (8-029) 9789490.*

• Дровы. Нядорага. Т. (8-029) 6106061.*

• Кацёл для лазні, кормазапарнік, вароты гаражныя і ўязныя. Т. (8-029) 8665497.

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Бярвенні б/у для рамонту драўлянага дома. Т. (8-029) 8617513.

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць». Т. (8-029)5019550.*




Адпраўляйце падатковую дэкларацыю да 31 сакавіка.

# Самы час дэклараваць даходы

**Калі вы атрымалі даходы ў 2019 годзе, якія трапляюць пад падаткаабкладанне падатковым органам, вы мусіце падаць дэкларацыю па падаходным падатку з фізічных асоб не пазней за 31 сакавіка гэтага года.**

Да такіх даходаў адносяцца:

### 1. Даходы ад продажу ці іншага выплатнага адчужэння маёмасці

1.1. Транспартных сродкаў:

• другога і больш аўтамабіляў;

• аднаго і больш грузавых аўтамабіляў або аўтобуса;

1.2. Аб'ектаў нерухомасці:

• цягам пяці год больш за адно незакончанае будаўніцтва капітальнага будаўніцтва, размешчанага на зямельным участку, які выдзелілі для будоўлі і абслугоўвання дома, садаводства, лецішча, службовага надзела, аднаго жылога дома з гаспадарчымі пабудовамі, аднаго гаража, аднаго машына-месца, аднаго зямельнага ўчастка, што належаць на праве ўласнасці. Або долі ў праве ўласнасці на названую маёмасць. А таксама больш за адзін аб'ект нерухомасці, які не адносіцца да відаў нерухомай маёмасці, указанай вышэй.

### 2. Даходы ў выглядзе дарэння

Даходы ў выглядзе дарэння, атрыманыя ад фізічных асоб, якія не з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, у памеры больш за 6569 рублёў ад усіх крыніц цягам 2019 года.

### 3. Даходы, атрыманыя за мяжой

Калі на вас не ўскладзены абавязак падаваць падатковую дэкларацыю, маюць права падаць такую дэкларацыю для таго, каб атрымаць падатковыя вылікі.

Падатковую дэкларацыю (разлік) можна падаць у падатковы орган асабіста або праз прадстаўніка, накіраваць у выглядзе паштовага адпраўлення з вопісам укладання або перадаць з дапамогай праграмных і тэхнічных сродкаў, у тым ліку праз асабісты кабінет плацельшчыка.

Для атрымання доступу да асабістага кабінета неабходна з пашпартам наведаць любую падатковую інспекцыю і атрымаць ідэнтыфікацыйны код і пароль.

Падрабязную інфармацыю па пытаннях неабходнасці падачы дэкларацыі, яе запаўнення і падатковых ільготах можна атрымаць у падатковым органе па месцы жыхарства.

## Прыём грамадзян

Грамадзян, якія павінны падаваць падатковую дэкларацыю па падаходным падатку з фізічных асоб за 2019 год, прымаюць **у рабочыя дні ад 8:00 да 19:00.**

**Выходныя:** субота, нядзеля.

Звяртайцеся на адрас: **Маладзечна, вуліца Лібава-Роменская, 67, кабінет 214.**

## Дапоўнілі бюджэтную класіфікацыю

**Асобныя палажэнні пастановы Міністэрства фінансаў ад 21 лістапада 2019 года №67 «Аб змяненні пастановы Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 2008 г. № 208» уступілі ў сілу ад студзеня гэтага года.**

**Раздзел 01 бюджэтнай класіфікацыі дапоўнілі наступныя падраздзелы:**

| | |
|---|---|
| 05 | Падаходны падатак з фізічных асоб, якія не прызнаюцца падатковымі рэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь, г.зн., прызначэнне плацяжу 0105 |
| 06 | Падаходны падатак з фізічных асоб з даходаў, вылічаных у адпаведнасці з заканадаўствам, зыходзячы з сум перавышэння расходаў над даходамі, г.зн., прызначэнне плацяжу 0106 |
| 07 | Падаходны падатак з фізічных асоб у фіксаваных сумах, г.зн., прызначэнне плацяжу 0107 |

**Раздзел 10 бюджэтнай класіфікацыі дапоўнілі падраздзелам**

| | |
|---|---|
| 06 | Падатак на дададзеную вартасць на тавары, што прывозяць на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь для будаўніцтва Беларускай атамнай станцыі, г.зн., прызначэнне плацяжу 1006 |

**Раздзел 51 бюджэтнай класіфікацыі дапоўнілі падраздзелам**

| | |
|---|---|
| 07 | Штраф за парушэнне правілаў прыпынку і стаянкі транспартных сродкаў, зафіксаваных спецыяльнымі тэхнічнымі сродкамі, якія працуюць у аўтаматычным рэжыме, г.зн., прызначэнне плацяжу 5107 |

**Паводле паведамленняў Інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

## У Вілейскім лясгасе запусцілі новую лесапільную лінію

1 лютага ў Вілейскім доследным лясгасе запусцілі новую лесапільную лінію вытворчасці латвійскай фірмы.

Новая лінія будзе працаваць на вытворчым участку «Рэчкі». У склад лініі ўваходзіць брусовачны, шматпільны, тарцовачны, абразны станкі. А таксама станок для перапрацоўкі аполкаў і драбільная машына, паведамляюць у лясгасе.

Абслугоўвае лінію шэсць станочнікаў. Лінія перапрацоўвае лесаматэрыял даўжынёй ад 0,5 да 4,2 метра і дыяметрам бервяна ад 120 мм да 320 мм. Плануюць, што пасля наладкі і выхаду работы на поўную магутнасць яна будзе працаваць у дзве змены і на месяц будзе выраблць 800 м3 дошак. Адходы пасля вытворчасці будуць перапрацоўвацца ў дранку.

**Аддзел інфармацыі.**

## Выпускны экзамен у школах сумесцяць з ЦТ?

Міністэрства адукацыі бачыць рэзервы для далейшага змяншэння нагрузкі на школьнікаў. Пра гэта сёння заявіў міністр адукацыі **Ігар Карпенка** на пасяджэнні калегіі ведамства, піша БЕЛТА.

Скарачацца нагрузка будзе ў тым ліку за кошт сумяшчэння выпускнога экзамену з ЦТ, дадаў міністр. Па яго словах, шмат бацькоў выказваюцца за гэту прапанову.

**Паводле БелТА.**

## Маладзечна стане горадам-драйверам рэгіянальнага росту

Удзельнікі чарговага пасяджэння праекта «Экспертная серада» ў прэс-цэнтры БЕЛТА абмеркавалі, які ў ідэале павінны быць горад-драйвер рэгіянальнага росту.

Гаварылі пра выкананне даручэнняў Аляксандра Лукашэнкі аб паскораным развіцці 11 гарадоў і раёнаў з колькасцю насельніцтва 80 тысяч чалавек і больш – «11 цэнтраў прыцягнення. Рэгіянальныя драйверы росту». Сярод 11 раёнаў ёсць і Маладзечаншчына.

Дырэктар Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў **Алег Макараў** прапанаваў экспертам змадэляваць ідэальны горад-драйвер рэгіянальнага росту або прывесці канкрэтныя прыклады, калі яны ёсць.

Удзельнікі адзначалі, што ў названых раёнах трэба выйсці на ўзровень заробку сярэдняга па рэспубліцы, што павінны вытрымлівацца стандарты ў адукацыі і ахове здароўя.

**Горад павінны развівацца без датацый, з высокім узроўнем жыцця. Паабяцалі, што будзе развівацца мясцовае самакіраванне.**

Горад Маладзечна ўвайшоў у спіс 11 гарадоў, якія на прыкладзе Оршы будуць паскорана развівацца па адмысловых праграмах. Гаворка ідзе пра забеспячэнне раўнамернага развіцця тэрыторый, скарачэнне разрыву ва ўзроўні і якасці жыцця людзей у рэгіёнах за кошт паскоранага сацыяльна-эканамічнага развіцця горада.

**Паводле БелТА.**

## Следчы камітэт шукае відавочцаў ДТЗ на дарозе М6. У аварыі загінуў адзін з кіроўцаў

Следчы камітэт Беларусі шукае відавочцаў ДТЗ на аўтамабільнай дарозе М6 Мінск-Гродна.

Па дадзеных следства, 5 лютага каля восьмі гадзін раніцы паблізу вёскі Прудцы аўтапоезд з паўпрычэпам сутыкнуўся з трактарам.

Ад атрыманых траўмаў 59-гадовы кіроўца грузавога аўтамабіля памёр, 36-гадовы кіроўца трактара ў цяжкім стане шпіталізаваны ў рэанімацыйнае аддзяленне.

Па факце ДТЗ распачалі крымінальную справу. Усе абставіны здарэння высвятляюцца.

**Калі вы сталі відавочцамі дадзенага ДТЗ, паведаміце пра гэта ў аператыўна-дзяжурную службу УСК па Гродзенскай вобласці па тэлефоне 8 (0152) 72-40-40 (кругласутачна) альбо па нумары 102.**

**Следчы камітэт Беларусі.**




Фота intex-press.by.

Калі пратэрмінаваць плацеж, давядзецца плаціць штраф.

# Сплаціце абавязковыя страхавыя ўнёскі да 1 сакавіка

**Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва нагадвае, што тэрмін выплаты абавязковых страхавых унёскаў за 2019 год – не пазней за 1 сакавіка 2020 года.**

| Перыяд, за які ўстанавілі памер мінімальнай заработнай платы | Памер мінімальнай заработнай платы з улікам індэксацыі | Разлік мінімальнай сумы ўнёскаў агулам за год |
|---|---|---|
| 01.01.2019 – 31.12.2019 | 330,00 | (330,00 х 35 %) х 12 мес. = 1 386,00 |

Аб'ектам для налічэння ўнёскаў з'яўляецца даход, які вызначае прадпрымальнік. Але не менш за суму памераў мінімальнай заработнай платы, якую ўстанавілі і праіндэксавалі ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Індывідуальныя прадпрымальнікі маюць права не выплачваць унёскі ў бюджэт фонду за перыяды, калі не займаліся дзейнасцю. Перыяды, калі дзейнасцю займаліся, а калі не, індывідуальныя прадпрымальнікі вызначаюць самі.

Перыяды ажыццяўлення (не ажыццяўлення) дзейнасці індывідуальныя прадпрымальнікі пацвярджаюць шляхам падачы 1 раз у год, не пазней за 31 сакавіка года, наступнага за справаздачным, у раённы аддзел Мінгарупраўлення па месцы пастаноўкі на ўлік (альбо з дапамогай партала) дакументаў індывідуальнага (персаніфікаванага) уліку па форме ПУ-3 «Індывідуальныя звесткі» (далей – форма ПУ-3).

Звярніце ўвагу! За несвоечасовую выплату абавязковых страхавых унёскаў у бюджэт фонду налічваецца пеня. Індывідуальныя прадпрымальнікі, якія парушылі тэрміны выплаты ўнёскаў у бюджэт фонду, прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці ў форме штрафу ў памеры 20% ад сумы ўнёскаў (артыкул 11.54. КаАП Рэспублікі Беларусь).

Несвоечасовая падача формы ПУ-3 цягне прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці па артыкуле 23.16. КаАП Рэспублікі Беларусь.

Па ўсіх пытаннях звяртайцеся ў раённы аддзел фонду па месцы пастаноўкі на ўлік альбо ў кансультацыйна-аналітычны аддзел Мінгарупраўлення. Тэлефон (8-017) 352-05-01.

**Крысціна РАМАНОЎСКАЯ, галоўны спецыяліст кансультацыйна-аналітычнага аддзела Мінскага гарадскога ўпраўлення фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.**

## З'явіўся экагід па пластыку. Ён змяшчаецца ў кішэню

**Праграма развіцця ААН у супрацоўніцтве з Цэнтрам экалагічных рашэнняў выпусцілі кішэнны памочнік па пластыку.**

Мініяцюрны даведнік дапаможа разабрацца ў відах і маркіроўцы пластыку.

Падкажа, як трэба абыходзіцца з рознымі пластыкавымі таварамі. Экагід лёгка змяшчаецца ў кішэню або кашалёк, таму карысная інфармацыя будзе заўсёды пад рукой.

Гід па пластыку працягвае серыю экалагічных міні-даведнікаў. Экагід спажыўца змяшчае спіс патэнцыйна шкодных рэчываў, якія можна знайсці ў складах спажывецкіх тавараў – ежы, касметыцы, бытавой хіміі. Экалагічны гід «Парады на кожны дзень» прапануе паспрабаваць простыя экалагічныя звычкі, якія дазволяць вам скараціць свой экалагічны след.




Фота Ecoidea.by.

Новы экагід па пластыку таксама дапаможа разабрацца ў відах «біяраскладальнай» упакоўкі, якая апошнім часам стала ўсё часцей з'яўляцца ў беларускіх крамах. Чакаецца, што такога тыпу пластыкавай упакоўкі будзе станавіцца ўсё больш, бо новая пастанова ўрада ўводзіць паніжаны тарыф на выкарыстанне біяраскладальнай пластыкавай упакоўкі.

Акрамя таго, экагід утрымлівае спасылкі на онлайн-рэсурсы, якія дапамогуць правільна абыходзіцца з пластыкавымі адходамі і падкажуць, што рабіць, каб адходаў пластыку было менш.

Экагід можна выкарыстоўваць як у электронным выглядзе, захаваўшы файл на тэлефон, так і ў папяровым. Раздрукуйце самастойна або вазьміце друкаваны варыянт у офісе Цэнтра экалагічных рашэнняў (тэлефон для папярэдняй сувязі +375 29 478 46 99, Таццяна).

**Паводле Ecoidea.by.**

# Таршэр

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці вартую кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

## Ці ўмееце вы быць чалавекам?

### Пра 10 любімых твораў распавядае Ганна Кішкурна

**Госць нашага сённяшняга «Таршэра» – маладзечанка Аня Кішкурна. Гэта дзяўчына, якая вечна на чамаданах і ўвесь час збіраецца ў мільён падарожжаў, але заўсёды вяртаецца ў Маладзечна. І калі яна ў Горадзе Сонца, то актыўна ўдзельнічае ва ўсіх мерапрыемствах горада, пра якія ведае.**



Фота Вольгі СІНЬКЕВІЧ.

Ганна Кішкурна ездзіць у мільён падарожжаў, але заўсёды вяртаецца ў Маладзечна.

Аня распавядае пра дзесяць сваіх самых любімых твораў мастацтва.

**1. Дзмітры Ліпскераў «Прастора Готліба»**

Хачу пачаць агляд з маёй любімай кнігі. Чаму менавіта яна, не пытайцеся. Я часта не магу зразумець сябе таксама. Яна называецца «Прастора Готліба», аўтар – Дзмітры Ліпскераў.

Фантастычная гісторыя неверагодна захоплівае. Прытым, што я ненавіджу фантастыку. Больш расказваць не буду, пачытайце. Фінал гісторыі проста эпічны.

**2. Эскхарт Тале «Сіла цяперашняга моманту»**

Далей ідзе кніга, якая перакуліць ваш свет. Хаця, вядома, каму як.

Пастаянна прыгадваеце мінулае? Марыце пра цудоўную будучыню? Не ўмееце жыць у кепскай сучаснасці? Пачытайце і адкрыйце для сябе відавочныя факты. Усё, здавалася б, зразумела. А на практыцы ўсе гэтыя рэчы ніхто не прымяняе.

**3. Фільмы Юрыя Быкава**

Прыйшла чарга распавесці пра фільм, які мяне ўразіў. Калісьці гэта быў «Сайлент Хіл». Зноў жа, не магу патлумачыць, чаму. Але ў маім асабістым рэйтынгу карціна трымалася доўга.

Аднак калі ёсць Юры Быкаў, усё меркне. Яго фільмы – «Завод», «Дурань», «Маёр», «Жыць», «Вартаўнік» – проста шэдэўры рускага мастацтва. Настолькі дакладна, жыва, па-сапраўднаму паказаць расійскую рэчаіснасць, паводзіны, размовы… Гэта проста неверагодна.

**4. Вершы Веры Палазковай**

Вера ўмее, як ніхто, цікава і трапна абыходзіцца са словамі і фразамі. Чытаеш яе вершы і разумееш – ну, гэта дакладна пра мяне! А пасля аказваецца, што і пра цябе. Мой любімы верш Палазковай – «Снова не мы».

**5. Кніга «Застаёмся зімаваць»**

Гэта назва адной з самых загадкавых кніг. Артхаўзная казка, дзе пераплеценыя зіма і лета. Яна мае свой шарм, чараўніцтва, а метафарычнасць зашкальвае. Папярэджваю, што такое ацэняць не ўсе. Занудам, якія не ўмеюць марыць і даваць свабоду ўяўленню, шукаць глыбіню, не варта і пачынаць чытаць.

**6. Лана Дэль Рэй, «Ride»**

Пагаворым пра шэдэўры музыкі. Вядома, я не буду спыняцца на Бітлз, AC/DC, Pink Floyd і іншых перацэненых рэчах.

Выберу маю любімую Лану Дэль Рэй, на якой прайшло маё юнацтва. Яна проста чароўная! Яе шэдэўр кліп «Ride» дастаткова ўбачыць, паслухаць тэкст, паразважаць пра амерыканскую мару. «Are you in touch with all of your darkest fantasies?».

**7. Серыялы**

Час серыялаў – мой любімы час!)

Складана выбраць са стольніх толькі адзін, я і не змагла. Таму вылучу два – «Амерыканская гісторыя жахаў» і «Прывіды дома на ўзгорку». Мяркую, вы ўжо здагадаліся, што яны звязаныя з жахамі. Але гэта не тыповыя тупыя фільмішкі жахаў. Гэтыя серыялы пранізаныя журботай і смуткам.

**8. «Занадта гучна і празмерна блізка»**

Гэта яшчэ адна незвычайная кніга. Кранальная гісторыя пра хлопчыка, чый тата загінуў у адной з вежаў-блізнятаў 11 верасня. У некаторых раздзелах можа падавацца, што адбываецца бязглуздзіца. Калі вы не ўмееце чытаць праз радкі – вучыцеся, каб чытаць нармальныя кніжкі.

**9. «Чалавек»**

Дакументальны фільм «The Human». Тут вы ўбачыце гісторыі, якія распавядаюць прадстаўнікі розных нацый з розных куткоў планеты.

Што значыць быць чалавекам? Ці ўмееце вы ім быць? Проста перад вамі паўстануць сумныя, а часам вясёлыя апавяданні пра жыццё іншых людзей.



Карціна Пабла Пікаса «Герніка».

**10. «Герніка». А вы ведаеце, што гэта?**

Гэта адна з карцін Пабла Пікаса. Калісьці мне даводзілася для «Мазгабойні» вывучыць усё магчымае, каб перамагаць. Так натрапіла на гісторыю гэтай працы.

На карціне паказаная бамбардзіроўка іспанскага горада Герніка па заказу Іспанскай Рэспублікі. Аднойчы да Пікаса прыйшлі фашысты. На стале мастака ляжалі паштоўкі з рэпрадукцыяй «Гернікі». «Гэта зрабілі вы?» – запыталіся ў Пікаса. «Не», – адказаў мастак. – «Гэта зрабілі вы».

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Дзённік мамы трэцякласніцы. Дзелім двухзначныя лікі, рыхтуемся да Масленіцы



МАЛАДЗЕЧНА

**Некалькі тыдняў таму скончыліся доўгія (аж 19 дзён) зімовыя канікулы і пачалася трэцяя чвэрць. А ў ёй ужо не будзе такіх жаданых дадатковых канікулаў, як у першым і другім класах.**

Атрымліваецца, што для Варвары і яе сяброў гэта самая доўгая чвэрць. Упершыню такая доўгая. Спадзяюся, выпрабаванне вытрымаюць і дзеці, і бацькі, і настаўнікі. На зімовых канікулах з горкі пакатацца можна было толькі на ровары. Затое адзначылі двое Калядаў. Былі і пачастункі, і мех з падарункамі. Самы жаданы для трэцякласніцы – вялікая кніга любімых дзіцячых апавяданняў.

Трэцяя чвэрць для трэцякласнікаў пачалася з дзялення двухзначных лічбаў і падрыхтоўкі да Масленіцы. Першае ідзе ў Варвары так сабе. А вось другое – на ўра. З задавальненнем вучыць масленічныя песні і танец. Сёлета традыцыйнае свята ў школе запланавалі на 29 лютага.

Звычайна бывае вídовішчна. На школьны двор збіраюцца людзі з суседніх шматпавярховак, дзеці спяваюць, танцуюць, праводзяць народныя масленічныя гульні. Частуюць блінамі і іншым печывам. Сёлета адказную місію – зладзіць свята – усклалі на паралель трэціх класаў.

**Рыхтуюць і яшчэ адзін танец пад музыку з любімага мультфільма пра троляў. Танцорка ўжо хвалілася, што настаўніца шые ім прыгожыя касцюмчыкі.**

Адчуваецца, што Варвара становіцца крыху больш самастойнай, калі рыхтуе дамашняе заданне. Над ёй ужо не трэба сядзець, як у папярэдніх класах. Стараецца сама акуратна пісаць дамашнюю работу па мовах, калі гэта не англійская. Тут без дапамогі старэйшай сястры-васьмікласніцы пакуль ніяк. А мама толькі ўздыхала, бо і ў школе, і ва ўніверсітэце вучыла нямецкую.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Той адзіны раз, калі крыху снегу на зімовых канікулах мы ўсё ж знайшлі.



Фотамомант з Дня здароўя.

# Адзявалі ляльку для прагулкі і спартсмена для спаборніцтва

## У смаргонскім садку правялі Дзень здароўя

СМАРГОНЬ

**У садку №13 правялі Дзень здароўя.**

Педагогі шмат рыхтаваліся да гэтага дня. У кожнай групе стварылі тэматычныя плакаты з назвамі «Мы чысцёхі», «Карысная ежа». Для бацькоў выхаванцаў распрацавалі розныя памяткі пра тое, як найлепш захаваць здароўе дзяцей.

Дзень здароўя пачаўся з аздараўленчай ранішняй гімнастыкі. На працягу дня ў старэйшых групах падчас заняткаў педагогі пагутарылі з выхаванцамі пра здаровыя зубы, карысную ежу і здаровы лад жыцця.

Былі гутаркі на тэмы «Карысныя і шкодныя звычкі», «Што значыць быць здаровым», «Хто такія мікробы», «Вітаміны – абаронцы арганізма». У групах дзеці гулялі ў разнастайныя дыдактычныя гульні: «Што карысна, а што шкодна для здароўя», «Адзень ляльку для прагулкі», «Што добра, што дрэнна для арганізма», «Што было б, калі б...», «Што ты ведаеш пра...», «Карысная ежа», «Адгадай від спорту», «Адзень спартсменаў перад спаборніцтвам». Таксама чыталі і развучвалі вершы, прыказкі і загадкі пра здароўе.

**А яшчэ да дзяцей у госці прыйшоў Доктар Айбаліт. Ён правёў пазнавальныя гутаркі, праверыў парадак і чысціню ў групах.**

Дынамічна прайшоў вольны час пад дэвізам «Мы здароўю скажам «так!». Дзеці спаборнічалі ў розных эстафетах. Спорт і рух падарылі нашым выхаванцам добры настрой і станоўчыя эмоцыі.

Мы, педагогі дзіцячага садка №13, надаём асаблівую ўвагу фізічнаму развіццю дзяцей, умацаванню і захаванню іх здароўя. Імкнёмся фарміраваць у выхаванцаў уяўленні пра здаровы лад жыцця, правільнае харчаванне. Развіваем у дашкольнікаў спрыт і сілу. А правілы асабістай гігіены засвойваюцца выхаванцамі, калі яны чысцяць зубы і мыюць рукі.

Такія дні здароўя ў нашым садку праводзяць штоквартальна.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 Смаргоні.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## Вучні з рэгіёна перамаглі ў абласным конкурсе «Калядная зорка»

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

У Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі ўзнагародзілі пераможцаў і прызёраў XXIII Рэспубліканскай выставы-конкурсу дэкаратыўна-прыкладной творчасці навучэнцаў «Калядная зорка».

У намінацыі «Калядная зорка» дыпломам першай ступені ўзнагародзілі **Ілью Пешкура**, навучэнца гімназіі №6 Маладзечна. Педагог – **Таццяна Пархамчук**.

У намінацыі «Навагодняя ялінка» другое месца ў навучэнца Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Іллі Самаля**. Педагог – **Сяргей Рыжэвіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Вілейшчыне абралі лепшыя школы, садкі і гімназію

ВІЛЕЙКА

**31 студзеня ў гімназіі №1 «Логас» правялі Савет упраўлення па адукацыі, спорце і турызме.**

На ім узнагародзілі лепшыя ўстановы адукацыі горада і раёна, паведамляюць ва Упраўленні адукацыі спорту і турызму Вілейскага райвыканкама.

Па выніках раённага этапу абласнога конкурсу «За дасягненне высокіх паказчыкаў у развіцці адукацыі» ўзнагароды атрымалі:

Вілейская гімназія №1 «Логас» – у намінацыі «Найлепшая гімназія»

Вілейская сярэдняя школа №3 – у намінацыі «Найлепшая ўстанова агульнай сярэдняй адукацыі, размешчаная ў гарадской мясцовасці»

Ільянская сярэдняя школа імя Адама Грымаця – у намінацыі «Найлепшая ўстанова агульнай сярэдняй адукацыі, размешчаная ў сельскай мясцовасці»

Вілейскі дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці – у намінацыі «Найлепшая ўстанова дашкольнай адукацыі, размешчаная ў гарадской мясцовасці»

Куранецкі дзіцячы сад – у намінацыі «Найлепшая ўстанова дашкольнай адукацыі, размешчаная ў сельскай мясцовасці».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Міністры замежных спраў Літвы і Беларусі сустрэліся на Астравеччыне

АСТРАВЕЦ

**На гэтым тыдні на Астравеччыне, у Рымдзюнах, сустрэліся міністры замежных спраў Беларусі і Літвы.**

**Лінус Лінкявічус** і **Уладзімір Макей** наведалі літоўскамоўную школу, пагутарылі пра адносіны краін і далейшае супрацоўніцтва, а таксама закранулі тэму Астравецкай АЭС. А пасля афіцыйных сустрэч Лінус Лінкявічус наведаў 96-гадовую жыхарку вёскі Петрыкі, што побач з Рымдзюнамі, колішнюю гераіню нашых публікацый **Марыю Мажэйкене**.

Рабочы візіт міністра замежных спраў Літвы ў Беларусь Лінуса Лінкявічуса пачаўся з сімвалічнага мерапрыемства – сустрэчы з літоўскай дыяспарай і сумеснага наведвання кіраўнікамі знешнепалітычных ведамстваў Беларусі і Літвы Рымдзюнскай сярэдняй школы з літоўскай і беларускай мовамі навучання. Аб гэтым паведамляе Міністэрства замежных спраў Беларусі.



Лінус Лінкявічус і Уладзімір Макей на ўроку літоўскай мовы ў Рымдзюнскай школе.

Фота з сайта МЗС Беларусі.

### Міністры слухалі літоўскія і беларускія вершы

Пра тое, як прайшла сустрэча міністраў замежных спраў дзвюх краін у Рымдзюнах, распавяла дырэктар аддзела культуры і вольнага часу аграгарадка Рымдзюны **Наталля Бялячыц**.

– Адразу да нас прыехаў Уладзімір Макей. Пасля – Лінус Лінкявічус. Абодвух міністраў сустрэлі на пляцоўцы каля Цэнтра літоўскай культуры, мовы і адукацыі. Сустракалі дырэктар школы з літоўскай мовай навучання **Святлана Лукшэне** і дырэктар беларускамоўнай школы **Людміла Дарафей**. Вучні чыталі для гасцей вершы па-літоўску і па-беларуску. А вучаніцы літоўскамоўнай школы падрыхтавалі танец «Кепурінэ» (капелюшы), – расказала Наталля.

Для міністраў правялі экскурсіі па абедзвюх школах, пабылі яны ў і Літоўскім цэнтры культуры, мовы і адукацыі, наведалі музейны пакой, які назвалі фішкай Гервяцкага краю.

У глядацкай зале цэнтра сустрэліся з прадстаўнікамі літоўскіх супольнасцяў Беларусі і паслухалі мясцовы фальклорны калектыў «Жыльвіціс» (вярба). Артысты выканалі песні па-літоўску і беларуску.

### Абмяняліся кнігамі на ўспамін

На ўспамін пра сустрэчу ў Рымдзюнах міністры павезлі кнігі пра Гервяцкі край. Пакінулі таксама і Рымдзюнам падарункі, а яшчэ запісы ў Кнізе ганаровых гасцей.

– Абодва міністры адзначылі, што наш Гервяцкі край унікальны, што тут душэўныя людзі. Заўважылі, што нават не хочацца адсюль з'язджаць, – дзеліцца Наталля.

З Рымдзюнаў міністр Лінус Лінкявічус паехаў у вёску Петрыкі да 96-гадовай Марыі Мажэйкене. Па словах Наталлі, ён пісьмова віншаваў Марыю з 90-годдзем і вельмі хацеў асабіста пазнаёміцца з ёй. Гэта міністр і зрабіў падчас сустрэчы. Ён падзякаваў Марыі Мажэйкене за тое, што жанчына паважае і захоўвае літоўскія традыцыі на Астравеччыне.

У сябе ў Твітары кіраўнік МЗС Літвы падзякаваў літоўскай дыяспары за захаванне літоўскай ідэнтычнасці.

– Візіт у Беларусь пачаўся з сустрэчы з літоўскай суполкай, абмеркавання іх патрэб. Удзячны за іх прыхільнасць да захавання літоўскай ідэнтычнасці.

### АЭС у Астраўцы – галоўнае рознагалоссе ў адносінах Беларусі і Літвы

Лінас Лінкявічус адзначыў, што Літва па-ранейшаму настойвае на тым, каб Беларусь прыняла план дзеянняў па выкананні рэкамендацый міжнародных арганізацый у галіне бяспекі АЭС. Літоўскі міністр сказаў, што ў беларуска-літоўскіх адносінах ёсць рознагалоссі, а самае вялікае – Астравецкая АЭС. Уладзімір Макей адказаў, што Беларусь таксама зацікаўленая ў бяспецы станцыі. Ён адзначыў, што ўсе рэкамендацыі, якія будуць выказаныя Літвой, будуць абмеркаваныя, а падчас візіту еўрапейскага рэгулятара гэтыя рэкамендацыі разгледзяць з адпаведнымі экспертамі.

Як перадае tut.by, Макей не змог сказаць, калі адбудзецца пуск першага энергаблока АЭС. Пуск прыйшлося перанесці «з-за розных прычын».

### Сустрэча з Румасам і супрацоўніцтва краін

БелТА паведамляе, што Лінкявічус пазней сустрэўся з прэм'ер-міністрам **Сяргеем Румасам**. Сяргей Румас звярнуў увагу, што Беларусь і Літва – краіны-суседзі, і блізкасць рынкаў, глыбокія культурныя, родпасныя кантакты, якія гістарычна склаліся, ствараюць трывалы падмурак, які дазваляе будаваць узаемавыгаднае беларуска-літоўскае супрацоўніцтва.

– Гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва з Літвой сёння развіваецца вельмі добра. У 2019 годзе таваразварот наблізіўся да 1,5 мільярда долараў. На працягу апошніх пяці гадоў беларускія грузы забяспечваюць 30% загрузкі Клайпедскага дзяржаўнага марскога порта, – адзначыў кіраўнік беларускага ўрада.

Актыўную ўзаемную цікавасць пацвярджае візавая статыстыка. Таму, на думку Сяргея Румаса, для ўрадаў дзвюх краін важнай задачай становіцца павышэнне прапускной здольнасці і сінхранізацыя працы пагранічных і мытных службаў Беларусі і Літвы.

Прэм'ер-міністр упэўнены, што патэнцыял беларуска-літоўскага супрацоўніцтва далёка не вычарпаны.

У інтарэсах Беларусі і Літвы – падтрымліваць дыялог і развіваць узаемавыгаднае супрацоўніцтва. Пра гэта заявіў журналістам міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей сёння па выніках сустрэчы са сваім літоўскім калегам Лінасам Лінкявічусам, перадае карэспандэнт БелТА.

Па словах Макея, Беларусь і Літва не проста краіны-суседзі, яны маюць агульную шматвяковую гісторыю.

– Мы можам па-рознаму інтэрпрэтаваць яе асобныя перыяды, але відавочна адно: на працягу стагоддзяў мы жылі ў адной дзяржаве – Вялікім Княстве Літоўскім. Паміж краінамі склаліся цесныя эканамічныя, гуманітарныя і міжчалавечыя кантакты.

Падрыхтавалі
**Аксана ЯРАШОНАК,**
**Настасся УТКІНА.**

# «Знайшоў працяг прызвання ў сваіх выхаванках». Уладзімір Макоўскі распавядае, чаму ён можа працаваць трэнерам

**У мінулым нумары мы распавядалі пра Уладзіміра Макоўскага, які не можа працаваць на спаборніцтвах, якія праводзіць федэрацыя футбола. Аднак Макоўскі мае права трэніраваць дзіцячыя каманды. Аб гэтым, а таксама пра дыскваліфікацыю ад АБФФ ён распавядае ў допісе для «РГ».**




Футбольная каманда ДЮСШ №4 Маладзечна, з якой працуе Макоўскі.

– Па-першае, дзякую чытачам, што не забываеце пра мяне. Па-другое, каб паставіць кропку ў домыслах і плётках, распавяду праўду ад першай асобы. Гэта не апраўданне, а тлумачэнне, чаму я трэнер, працую ў спартыўнай школе і не парушаю рэгламент АБФФ.

### Праца ў дзіцячым футболе – гэта не парушэнне

У пачатку 2017-га я развітаўся з вышэйшай лігай чэмпіяната Беларусі (тады трэніраваў каманду прафесіяналаў), пераехаў у горад, дзе нарадзіўся і пачынаў футбольны шлях, – у Маладзечна. Ад 1 чэрвеня 2017 пачаў працаваць у ДЮСШ №4 трэнерам-выкладчыкам з дзяўчынкамі 2001-2003 гадоў нараджэння. Ад 10 жніўня таго ж года мяне перавялі на пасаду інструктара-метадыста, але па сумяшчальніцтве працаваў і трэнерам-выкладчыкам на 0,5 стаўкі.

У снежні 2017-га ўступіў у сілу прыгавор суда Першамайскага раёна Мінска, дзе ў адносінах да мяне было прыменена пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін два гады без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу з пазбаўленнем права ўдзелу ў прафесійных спартыўных спаборніцтвах на тэрмін пяць гадоў. Усе мы падпарадкоўваемся кодэксам і законам Беларусі, ёсць спецыялісты крымінальна-выканаўчай інспекцыі ў кожным горадзе, якія сочаць за выкананнем пакаранняў, што было і ў маім выпадку.

ДЮСШ – гэта дзяржаўная адукацыйная ўстанова дадатковай адукацыі для падрыхтоўкі юных спартсменаў і далучэння да масавай фізічнай культуры дзяцей і моладзі ад 6 да 18 гадоў. Я выконваю прысуд – прафесійна футболам не займаюся, абмежаванняў для правядзення трэніровак дзяцей у мяне няма, працую на законных падставах.

Што тычыцца дзіцячага футбола і маіх жаночых груп па футболе, лічу сваю прысутнасць са сваімі камандамі на полі ва ўдзеле ў маладзевым першынстве Рэспублікі Беларусь сярод дзяўчат справядлівым, абгрунтаваным. Я нясу адказнасць за іх жыццё і здароўе, з'яўляючыся асобай, якая суправаджае іх на матчах.

На працу ў ДЮСШ №4 мяне прынялі па Працоўным кодэксе Рэспублікі Беларусь, дзе я выконваю свае службовыя інструкцыі ў поўным аб'ёме, а рэгламент АБФФ распаўсюджваецца на прафесійны спорт. Прасцей кажучы, адно другому не супярэчыць.

### Макоўскі – пра федэрацыю футбола

Цяпер раскрыю ўсё, што тычыцца АБФФ. У лютым 2018 года дысцыплінарны камітэт федэрацыі пажыццёва дыскваліфікаваў 12 чалавек, у тым ліку і мяне, спасылаючыся на пункт 5 артыкула 20.

> **Аднак цяпер на двары 2020 год, а я да гэтага часу чакаю гэта рашэнне.**

Хоць бы прачытаць яго, так як пра існаванне гэтага рашэння я і яшчэ 11 чалавек даведаліся з інтэрнэту.

Згодна з пунктам 4 артыкула 60 рэгламенту АБФФ «на працягу 5 рабочых дзён з моманту абвяшчэння рашэнне ў пісьмовым выглядзе накіроўваецца асобе, у дачыненні да якой яно было прынятае, і ў асацыяцыю». Згодна з пунктам 1 артыкула 64 рэгламенту: «асоба, у дачыненні да якой ужытае дысцыплінарнае пакаранне, альбо асоба, інтарэсы якой непасрэдна закранаюцца, мае права абскардзіць вынесенае рашэнне ў вышэйстаячым дысцыплінарным органе шляхам падачы скаргі на працягу 10 (дзесяці) сутак з моманту яго вынясення, а ў дачыненні да асобы, да якой вынесенае рашэнне, адсутнічала пры разглядзе справы, – не пазней за дзесяць сутак з дня атрымання рашэння». Далей у рэгламенце ёсць артыкулы 65, 66, 67 аб парадках падачы і разглядзе скаргі, але ў маім выпадку мне не далі скарыстацца такой магчымасцю.

Атрымліваецца, АБФФ сама ж парушае свой уласны рэгламент. Вось яшчэ адзін артыкул, парушаны ў дачыненні да мяне: пункт 1 артыкула 58 рэгламенту: «Асоба, у дачыненні да якой вядзецца вытворчасць па дысцыплінарнай справе, мае права:

- знаёміцца з матэрыяламі справы, рабіць выпіскі і копіі з іх;
- даваць тлумачэнні ў пісьмовай форме;
- заяўляць хадайніцтвы і адводы;
- атрымліваць копіі рашэнняў дысцыплінарных органаў».

Сітуацыя склалася такім чынам, што АБФФ у аднабаковым парадку вынесла рашэнне па мне і яшчэ 11 футбалістам, не палічыла патрэбным азнаёміць і не дала магчымасці абскардзіць, значыць, фармальна я не азнаёмленая з рашэннем асоба.

Я разумею, што такое дыскваліфікацыя ў прафесійным спорце, таму на матчах вышэйшай лігі чэмпіянату Беларусі па футболе, на матчах другой і першай лігі мяне не ўбачыце – я іх не наведваю.

Ёсць яшчэ адзін момант, які таксама паўплываў на маю прысутнасць у камандзе як трэнера. Усім вядома, што АБФФ увяла сістэму COMET. Сутнасць яе ў тым, што ў праграме ёсць шэсць модуляў, з якіх найбольш важнымі з'яўляюцца тры: модуль рэгістрацыі, які ўключае ў сябе рэгістрацыю футбалістаў, трэнераў, суддзяў, клубаў, стадыёнаў і гэтак далей; модуль спаборніцтваў, накіраваны на стварэнне турніраў і працу з заяўкамі, пратаколамі; і модуль дысцыплінарных спагнанняў, дзе вядзецца ўлік парушэнняў.

Таксама вельмі важная частка працы COMET – запаўненне перадматчавых пратаколаў, за 24 гадзіны да матча. Калі зрабіць не ў час – гэта лічыцца невыкананнем рэгламенту. Да прыкладу, калі гулец не можа гуляць з-за дысцыплінарных санкцый – яго выбраць немагчыма.

Таксама з трэнерскім штабам і з суддзямі. Мае дадзеныя карэктна ўнесеныя ў гэту сістэму і без абмежаванняў уносяцца ў перадматчавы пратакол. З-за чаго прыйшоў да высновы аб правамернасці сваёй працы.

* * *

Я дасягнуў як футбаліст максімуму – чэмпіён Беларусі, чэмпіён Украіны, лепшы футбаліст Беларусі 1996 года. І калі адкінуць жыццёвыя памылкі і ўвесь негатыў да мяне, то лічу, што маім вучням ёсць што пераняць ад такога трэнера, як я.

Гэта не пустыя словы, мае выхаванкі гэта даказалі. За год я перадаў у Рэспубліканскае вучылішча алімпійскага рэзерву шэсць дзяўчынак, у Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі БДУ адну дзяўчынку. Дзве з іх залічаныя ў зборную Беларусі па футболе як стажоры, і яшчэ дзве – як рэзервовыя гульцы.

Кожны з нас у жыцці памыляецца, але жыццё працягваецца. Свае памылкі палічыў за лепшае выпраўляць не словамі, а справай. Я знайшоў працяг прызвання ў сваіх выхаванках, яны ў мяне малайцы.

**Уладзімір МАКОЎСКІ.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Адчуванне фізічнай або маральнай пакуты.
2. Краіна, якая гістарычна належыць пэўнаму народу і якую гэты народ насяляе.
6. Высокі старадаўні магільны насып.
9. Адна з мышцаў пляча, якая згінае руку ў лакцявым суставе, або сцягна, якая згінае галёнку ў каленным суставе.
10. Пасцельная рэч, якой накрываюцца.
11. Памяшканне з печчу або плітой для гатавання ежы.
12. Чалавек мужчынскага полу, які не дасягнуў сталасці, малады чалавек, хлопец.
13. Частка механізма, машыны.
14. Дзяржава.
19. Ежа з разбітых і запечаных у тлушчы яек.
20. Спецыяліст у галіне юрыспрудэнцыі; практычны дзеяч у галіне права.
22. Страва са свежай рыбы з прыправамі; рыбны адвар.
24. Участак зямлі пры доме, прадпрыемстве, абгароджаны плотам ці сценамі будынкаў.
25. Вышэйшая ступень пазнавальнай дзейнасці чалавека, здольнасць лагічна мысліць.
26. Нізкае месца.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Калі няма парадку.
3. Выбарны прадстаўнік, член выбарнай дзяржаўнай установы.
4. Успышка святла.
5. Прыродная мінеральная сыравіна, якая змяшчае ў сабе металы або іх злучэнні.
7. Тэкст, напісаны ад рукі, а таксама аддрукаваны на пішучай машынцы.
8. Адна з форм капіталістычных манаполій, аб'яднанне прадпрыемцаў, якое бярэ на сябе ажыццяўленне ўсёй камерцыйнай дзейнасці.
11. Урачыстае абяцанне.
15. Перавышэнне расходаў над даходамі.
16. Апора, стойка.
17. Сёмы дзень тыдня, агульны дзень адпачынку.
18. Знаёмствы, сувязі, якія можна выкарыстаць у асабістых карысных інтарэсах.
21. Нараст ад гарэння.
23. Круг заняткаў, абавязкаў; справа.
24. Свабоднае публічнае абмеркаванне спрэчнага пытання.
27. Частка сутак ад захаду да ўсходу сонца, з вечара да раніцы.

## Адказы на крыжаванку з №5

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Кардыф. 6. Такт. 7. Вольт. 8. Закон. 9. Каркас. 11. Уругвай. 12. Карта. 13. Наталля. 15. Карфаген. 17. Ваколіца. 18. Тэрмін. 20. Экзамен. 22. Завязь. 23. Вагон. 24. Мадагаскар.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Пашкевіч. 2. Змова. 3. Эверэст. 4. Доктар. 8. Заява. 9. Кефір. 10. Вогнішча. 14. Кволы. 16. Траўма. 18. Тамат. 19. Кілька. 20. Эвалюцыя. 21. Забрала. 23. Вабіць. 25. Таршэр.



● ГАРАСКОП НА 7-13 ЛЮТАГА

## Дзе вас чакае каханне



**АВЕН.** Звычайна вы робіце выбар другой паловы даволі рана. Лёгка пачынаеце адносіны і захапляецеся партнёрам. Аднак ад самага пачатку вы дакладна ведаеце, чаго чакаеце ад канкрэтных адносінаў. Найчасцей знаходзіце партнёра ў месцах, звязанымі з працай або вучобай.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам няма патрэбы шукаць каханне, яно само знаходзіць вас. Прычым часта можа напаткаць у самых нечаканых месцах – крамах, аэрапортах або паліклініцы. І хаця напачатку вы няшмат чакаеце ад сувязі, якая пачалася ў краме, гэта можа стаць вашым лёсам.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы заўсёды ў пошуку новых уражанняў і людзей. Важна, каб ваша кола знаёмых натхняла, было цікавым і насычаным. Таму найбольш шанцаў знайсці чалавека, які прымусіць сэрца біцца часцей, у такой прыемнай кампаніі.



**РАК.** Ракі настолькі пачуццёвыя асобы, што іскра іх кахання можа разгарэцца ў любы час і ў любым месцы. Таму асаблівай розніцы, дзе шукаць каханне, няма. Важна толькі, каб вы самі былі настроеныя на рамантычны настрой.



**ЛЕЎ.** Ільвы ведаюць, які партнёр ім патрэбны. А пасля шукаюць асобу, якая найбольш падыходзіць пад іх патрабаванні. Найчасцей такія асобы знаходзяцца па суседстве або на працы.



**ДЗЕВА.** Для вашага знака характэрная асаблівасць часу. Як толькі перастаеце спадзявацца, абавязкова сустракаеце таго або тую, з кім хочацца з галавой акунуцца ў рамантычныя адносіны.



**ШАЛІ.** Чамусьці чым далей ад дому, тым больш шанцаў у Шаляў знайсці сваё каханне. У падарожжах асабліва востра адчуваеце жыццё, свабоду і, безумоўна, каханне.



**СКАРПІЁН.** Вы кахаеце моцна і нягледзячы ні на што. Найчасцей партнёра знаходзіце ў кампаніях або падчас агульнай справы ці вечарыны. Скарпіёнам важны характар і розум каханага або каханай. Таму зразумець, што гэта тое самае, можна ва ўмовах, калі раскрываецца асоба.



**СТРАЛЕЦ.** Вельмі адданы знак. Часта вы знаходзіце партнёраў у юным ці маладым узросце і даражыце адносінамі цягам усяго жыцця. Найчасцей сустракаюць каханне спантанна – падчас прагулкі, у кампаніі, на фестывалі.



**КАЗЯРОГ.** Ці знаходзяць партнёра вельмі рана, ці шукаюць вельмі доўга. Нярэдка знаёміцца праз агульных сяброў. Бывае, спантанныя сустрэчы перарастаюць у нешта па-сапраўднаму значнае.



**ВАДАЛЕЙ.** Вашы гісторыі кахання – з перчыкам і прыгодамі. Такі доўгі шлях да кахання, што праўда робіць аддачу. Калі ўсе маскі застануцца на падлозе, вас чакае кругаварот жарсці. Асноўная пляцоўка для пошуку партнёра – бізнес, праца. Нярэдка Вадалеі сумяшчаюць гэтыя дзве сферы ў адной асобе.



**РЫБЫ.** У вас магутная інтуіцыя, якая падштурхоўвае туды, дзе вас чакае найлепшы варыянт. Прычым яна працуе і на каханне, і на працу. Давярайце сваёй інтуіцыі.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 9 | | 8 | 4 | | | | |
| | 1 | | 2 | | | | 7 | 8 |
| 6 | | | 7 | | 9 | | | |
| | 4 | | 9 | 8 | | | 3 | |
| | | 2 | 4 | | 7 | | | |
| | | | | 1 | 2 | | 6 | |
| 3 | 8 | | | | | | | 5 |
| 5 | | | 1 | | | 3 | | |
| | 6 | | 5 | | 3 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by




● #РГ25

## «Яны стварылі самі душу-атмасферу свайго выдання»

### – Эдзіта Бранцэвіч, выхавальніца беларускамоўнай групы яслэў-сада №8 горада Смаргоні

– Якая цудоўная падзея – «Рэгіянальнай газеце» – 25 год! Вельмі рада далучыцца да юбілею гэтага цікавага выдання. Ад усяго сэрца віншую людзей, якія ствараюць магчымасць чытаць заўсёды свежую актуальную і карысную інфармацыю.

Маё знаёмства з «Рэгіянальнай газетай» пачалося некалькі гадоў таму. І з таго часу я вызначыла для сябе выданне, як адно з прыярытэтных. Мне падабаецца ў ім падача інфармацыі, яе актуальнасць, своечасовасць, здаровы сэнс.

Чытаю ў газеце самую розную інфармацыю, але перавагу аддаю навінам рэгіёна. Бо дзе яшчэ можна даведацца пра падзеі, людзей, грамадскае жыццё блізкага табе асяроддзя?

Вельмі імпануе, што газета – беларускамоўная. І справа не толькі ў мове, але і жыццёвай пазіцыі калектыву, які яе стварае. Тут паважаюць чытачоў.

Мне пашанцавала асабіста пазнаёміцца з калектывам «Рэгіянальнай газеты». Гэта вельмі творчыя, натхнёныя, таленавітыя і працавітыя людзі. Яны стварылі самі душу-атмасферу свайго выдання і песцяць яе ў гняздечку-рэдакцыі. Няхай ім заўсёды спадарожнічаюць толькі шчаслівыя зоркі.



Фота з архіва «РГ».

* * *

**Калі вам ёсць што сказаць пра «Рэгіянальную газету», тэлефануйце ў рэдакцыю (8-0176) 53-78-06, пішыце на e-mail regionnews@rh.by або на адрас: 222310, г.Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518, Мінская вобласць, Беларусь.**

**А таксама посціце ў сацсетках з хэштэгам #РГ25!**

## Чытайце праз тыдзень:

- Пра развіццё валейбола ў Маладзечне распавядае адзін з гульцоў і арганізатараў турніраў. Цікавыя факты і гісторыі вы пабачыце ўжо ў наступным нумары.

## 8 лютага, субота

**Вецер:** заходні, 4 м/с





**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -22,2°C у 1996 годзе
Максімальная тэмпература +8,4°C у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,6 мм у 1988 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Калі вы апошні раз бегалі?



**Таццяна Брыль, прадавец, Маладзечна:**
– Два дні таму бегала, спяшалася на аўтобус.



**Вікторыя Рудзько, выхавальніца, Маладзечна:**
– Даўно бегала. А вось практыкаванні раблю кожны дзень, шмат хаджу, бег – гэта не маё.



**Валянціна Лапко, пенсіянерка, Вілейка:**
– На тым тыдні, спазнялася на аўтобус. Бегаю не часта, а хаджу кожны дзень. Два разы гуляю з сабакам. Праходжу кіламетраў 6-7. Люблю падарожнічаць, нават на байдарках.



**Дзяніс Багданёнак, менеджар, Маладзечна:**
– Бег я замяняю роварам. У сезон катаюся часта, але кіламетраў праязджаю няшмат.



**Аксана Рогач, страхавы агент, Маладзечна:**
– Бегла нядаўна за аўтобусам, а ўвогуле не часта і спортам займаюся, таму што няма часу.



**Аксана Віткоўская, выхавальніца, Смаргонь:**
– Я бегаю кожную вясну з канца сакавіка. Пачынаю з двух кіламетраў і заканчваю 15 кіламетрамі. Не ведаю чаму, але толькі вясной атрымліваецца. Раней з дачкой разам бегалі, а цяпер яна паступіла. Буду бегаць адна.



**Дзмітры Шкель, грузчык, Вілейка:**
– Бегаў учора, таму што ў санаторыі, але сам рэдка бегаю.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№6 (1293) 7.02.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 208. Падпісана ў друк у 9.00 6.02.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.